# ЗВЯЗДА

19 чэрвеня 1996 г. серада, № 155 (22958)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

## РОЗГАЛАС

### ПАСТАНОВА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 399
### АБ АБ'ЯЎЛЕННІ 22 ЧЭРВЕНЯ 1996 г. ДНЁМ АГУЛЬНАНАРОДНАЙ ПАМЯЦІ І СМУТКУ

У сувязі з 55-годдзем з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Аб'явіць 22 чэрвеня 1996 г. — дзень пачатку Вялікай Айчыннай вайны — Днём агульнанароднай памяці і смутку. З нагоды гэтай падзеі:

1.1. Аблвыканкомам, Мінскаму гарвыканкому арганізаваць ускладанне кветак у месцах пахавання ахвяр фашызму, а таксама правесці неабходныя мерапрыемствы з выпадку Дня агульнанароднай памяці і смутку, накіраваныя на кансалідацыю грамадства.

У ходзе правядзення Дня агульнанароднай памяці і смутку разам з дзяржаўнымі сімваламі Рэспублікі Беларусь карыстацца сімволікай у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 6 мая 1996 г. № 158 «Аб Сцягу Перамогі»;

1.2. Рэкамендаваць Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, аблвыканкомам, Мінскаму гарвыканкому, гарвыканкомам, райвыканкомам, а таксама даручыць Міністэрству культуры:

не праводзіць 22 чэрвеня 1996 г. культурна-масавых мерапрыемстваў забаўнага характару, адмяніць перадачу забаўляльных праграм па радыё і тэлебачанню;

прадугледзець у гэты дзень тэлевізійныя і радыёперадачы, прысвечаныя правядзенню мерапрыемстваў, звязаных з 55-годдзем з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны;

арганізаваць ушаноўванне абаронцаў Радзімы ў гады Вялікай Айчыннай вайны;

1.3. Міністэрству адукацыі і навукі, Міністэрству культуры, Дзяржаўнаму камітэту Рэспублікі Беларусь па друку, Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыкампаніі арганізаваць работу па прапагандзе Дня агульнанароднай памяці і смутку, недапушчальнасці выкарыстання трагізму вайны ў палітычных мэтах.

2. У мэтах умацавання грамадскай згоды рэкамендаваць палітычным партыям і грамадскім аб'яднанням:

2.1. Устрымацца ад правядзення 22 чэрвеня 1996 г. розных палітычных мерапрыемстваў;

2.2. Праявіць клопат аб магілах суайчыннікаў і замежных грамадзян, якія загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны.

3. Міністэрству ўнутраных спраў прадугледзець меры па забеспячэнню грамадскага парадку ў Дзень агульнанароднай памяці і смутку 22 чэрвеня 1996 г.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М. ЧЫГІР.**

17 чэрвеня 1996 г.
г. Мінск.

## ВІНШАВАННЕ ПРЭЗІДЭНТА

**Прэзідэнт нашай рэспублікі Аляксандр Лукашэнка накіраваў віншаванне народнаму артысту СССР Мікалаю Яроменку ў сувязі з 70-годдзем. У ім гаворыцца:**

«Глыбокашаноўны Мікалай Мікалаевіч!

Прыміце шчырыя і сардэчныя віншаванні, самыя добрыя пажаданні ў сувязі з Вашым юбілеем.

Ваш талент, вялікая грамадская дзейнасць атрымалі ўсеагульнае прызнанне, здабылі любоў тэатралаў, кінагледачоў, усяго беларускага народа. У апошнія гады сярод Вашых паклоннікаў не толькі старэйшае пакаленне, але і моладзь, выхаванню якой Вы аддаяце шмат часу і сіл. Дзякуем Вам за ўсё зробленае па развіццю беларускага мастацтва.

Шчасця Вам, добрага здароўя, поспехаў у творчай працы, у Вашай плённай грамадскай дзейнасці».

**БЕЛТА.**

_ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК_

## ТЭМА ПАРЛАМЕНЦКІХ СЛУХАННЯЎ — СТАН ЭКАНОМІКІ

**18 чэрвеня на вячэрнім пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета журналісты і назіральнікі чакалі «смажанага»: меркавалася, што тэма абстрэлу аўтамабіля Віктара Ганчара атрымае працяг і ў Авальнай зале. Аднак для дэпутатаў знайшлася тэма больш шырокага маштабу.**

Старшыня Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах Васіль Шлындзікаў прапанаваў уключыць у парадак дня пытанне аб парламенцкіх слуханнях адносна эканамічнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Яго прапанову падтрымалі дэпутаты з фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» і «Саюз працы». Але супраць выступілі камуністы. Прапанова патанула ў спрэчках. Толькі пасля гадзіны абмеркавання шляхам пайменнага галасавання пытанне было ўключана ў парадак дня сесіі.

Да таго ж учора высветлілася, што ўсе спробы Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага звязацца з Прэзідэнтам, каб прапанаваць А. Лукашэнку выступіць на сесіі, плёну не далі. Таму кіраўніку дзяржавы было накіравана афіцыйнае пісьмо ад імя прэзідыума, у якім прапанавана выступіць з дакладам аб эканамічным становішчы ў дзяржаве.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

17 чэрвеня пад старшынствам Сямёна Шарэцкага адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Прынята пастанова аб размеркаванні абавязкаў паміж членамі прэзідыума. Згодна з ёй, Мечыслаў Гіруць будзе курыраваць пытанні сувязі з палітычнымі партыямі, грамадскімі аб'яднаннямі і арганізацыямі; Сямён Домаш — з мясцовымі Саветамі дэпутатаў і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння дзейнасці Вярхоўнага Савета; Сяргей Калякін — з замежнымі парламентамі; Уладзімір Канаплёў — пытанні работы дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з выбаршчыкамі; Васіль Саковіч — пытанні рэалізацыі Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь сваіх кантрольных функцый.

Размеркаванне абавязкаў паміж іншымі членамі прэзідыума зацверджана 29 студзеня 1996 года Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб размеркаванні абавязкаў паміж першым намеснікам і намеснікамі Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».

Разгледжана пытанне аб запрашэнні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі на першую сесію Вярхоўнага Савета для выступлення згодна з 100-м артыкулам Канстытуцыі з дакладам аб становішчы дзяржавы.

Прынята рашэнне аб накіраванні афіцыйнай дэлегацыі Вярхоўнага Савета на чале з намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета Юрыем Малумавым у Страсбург для ўдзелу ў сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, якая адбудзецца ў апошні тыдзень чэрвеня.

Разгледжаны пытанні ўзнагароджання Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета — БЕЛТА.**

## СПЫНЕНА СПРОБА АТРЫМАННЯ Ў БАНКУ 735 МІЛЬЁНАЎ РУБЛЁЎ ПА ФАЛЬШЫВАЙ ПЛАЦЕЖЖЦЫ

**735 мільёнаў рублёў спрабаваў атрымаць па падробленаму плацежнаму даручэнню студэнт сталічнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі Дзмітрый Бязручкін.**

Як паведамілі «Інтэрфаксу» ў прэс-цэнтры МУС рэспублікі, дзеянні адбываліся 5 чэрвеня ў памяшканні Аграпрамбанка ў Мінску. Грошы належалі вытворча-камерцыйнай фірме «Колка-Кола Амаціл Беларусь». У прэс-цэнтры таксама паведамілі, што злачынства ўдалося прадухіліць у выніку зладжаных аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў, праведзеных супрацоўнікамі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Фрунзенскага райаддзела міліцыі.

## У ОФІС УЛЯЦЕЛА ГРАНАТА

**Калі работнікі Гомельскага калектыўнага вытворчага аб'яднання «Везувій» раніцай прыйшлі на працу, яны не пазналі свайго памяшкання.**

Вокны былі моцна пашкоджаны, мэбля ўся ў дзірках, нібы рэшата, а сцены быццам хто падзёўб ломам ці нейкім іншым вострым прадметам. Аказваецца, ноччу ў акно будынка нехта шпурнуў гранату і яна нарабіла столькі бед. Добра, што на той час у офісе нікога з людзей не было. Пошукі зламысніка плёну пакуль не прынеслі.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## ПРЭЗІДЭНТ ПРАЦЯГВАЕ ЎДАКЛАДНЯЦЬ СІТУАЦЫЮ НА МЕСЦАХ

Як паведаміла БЕЛТА прэс-служба прэзідэнта Беларусі, Аляксандр Лукашэнка працягвае ўдакладняць сітуацыю на месцах. 14 чэрвеня ён заслухаў даклад старшыні Гомельскага аблвыканкома Паўла Шыпука аб становішчы спраў у вобласці.

Прэзідэнт цікавіўся ходам выканання даручэнняў, дадзеных ім у час наведвання Гомеля і раёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, у тым ліку і тых, што вынікаюць са зваротаў грамадзян на яго імя. Ён даў указанне ў першую чаргу забяспечыць поўную і своечасовую выплату пенсій, дапамог і заработнай платы менавіта ў чарнобыльскіх раёнах.

Разглядалася таксама пытанне аб рабоце вытворчых аб'яднанняў «Карал», «Крышталь», «Гомсельмаш» і некаторых іншых. Павел Шыпук праінфармаваў прэзідэнта аб тым, што буйныя замежныя кампаніі, у тым ліку фірма «Самсунг», праяўляюць цікавасць да супрацоўніцтва з прадпрыемствамі вобласці. Аляксандр Лукашэнка падтрымаў ідэю прыцягнення замежных інвестыцый, аднак адзначыў, што такое супрацоўніцтва абавязкова павінна ўвязвацца з вырашэннем сацыяльных пытанняў, у прыватнасці, з працаўладкаваннем выслабаняемых работнікаў.

Прэзідэнт яшчэ раз звярнуў увагу на неабходнасць своечасовай выплаты заработнай платы работнікам бюджэтнай сферы. Былі разгледжаны праблемы рэфарміравання сістэмы медыцынскага абслугоўвання ў вобласці, шэраг іншых сацыяльных пытанняў.

* * *

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 17 чэрвеня Аляксандр Лукашэнка заслухаў старшыню Гродзенскага аблвыканкома Аляксандра Дубко аб стане спраў у вобласці.

Адзначыўшы зробленыя захады па стабілізацыі эканомікі вобласці, Прэзідэнт у той жа час запатрабаваў павысіць адказнасць упраўленцаў за даручаную справу. У прыватнасці, абмяркоўвалася пытанне аб кіраўніцтве Гродзенскага аб'яднання «Хімвалакно», Гродзенскага гарбарнага і Смаргонскага агрэгатнага заводаў.

А.Лукашэнка яшчэ раз звярнуў увагу на неабходнасць поўнай і своечасовай выплаты заработнай платы работнікам бюджэтнай сферы. Запазычанасць па заработнай плаце настаўнікам павінна быць пагашана на працягу чэрвеня бягучага года, сказаў Прэзідэнт.

Абмеркавана праблема выплаты вобласці другой часткі авансу для арганізаванага правядзення ўборкі ўраджаю.

Разгледжана таксама пытанне зніжэння чыгуначных тарыфаў на перавозкі грузаў для беларускіх прадпрыемстваў-экспарцёраў.

Прэзідэнт згадзіўся з думкай А.Дубко аб неабходнасці распрацаваць і ўвесці стабільнае і разумнае падаткаабкладанне так званых «чаўнакоў». Дзейнасць гэтай катэгорыі дробных прадпрымальнікаў павінна ажыццяўляцца толькі ў рамках закону і прыносіць карысць як ім самім, так і рэспубліцы ў цэлым, адзначыў А.Лукашэнка.

А.Дубко праінфармаваў Прэзідэнта аб тым, як выканаўчая ўлада вобласці ўзаемадзейнічае з дэпутатамі Саветаў рознага ўзроўню. У той жа час выказвалася агульная думка, што выбаршчыкі павінны мець больш магчымасцей для ацэнкі дзейнасці дэпутатаў, у тым ліку і дэпутатаў Вярхоўнага Савета, у рэспубліканскіх і мясцовых сродках масавай інфармацыі.

А. Лукашэнка выказаў намер у бліжэйшы час наведаць Гродзенскую вобласць.

**БЕЛТА.**

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 214
### АБ ЗМЯНЕННІ САСТАВУ МІЖВЕДАМАСНАЙ КАМІСІІ ПА БАРАЦЬБЕ СА ЗЛАЧЫННАСЦЮ І НАРКАМАНІЯЙ ПРЫ САВЕЦЕ БЯСПЕКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Увесці ў састаў Міжведамаснай камісіі па барацьбе са злачыннасцю і наркаманіяй пры Савеце бяспекі Рэспублікі Беларусь, зацверджаны Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 30 чэрвеня 1995 г. № 244 «Пытанні Міжведамаснай камісіі па барацьбе са злачыннасцю і наркаманіяй пры Савеце бяспекі Рэспублікі Беларусь» /Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 19, арт. 428/, А. М. Абрамовіча, намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, В. С. Агальца, міністра ўнутраных спраў, І. І. Антановіча, намесніка міністра замежных спраў, М. Ф. Дамашкевіча, начальніка Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Г. Д. Дыляна, намесніка міністра адукацыі і навукі, М. М. Кохана, намесніка начальніка Галоўнага ўпраўлення пагранічных войскаў, У. А. Мацкевіча, старшыню Камітэта дзяржаўнай бяспекі, В. М. Палешчука, выконваючага абавязкі начальніка аддзела аператыўнага рэагавання апарату Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь (сакратар камісіі), М. М. Цімошчанку, намесніка кіраўніка групы саветнікаў прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, выключыўшы з саставу гэтай камісіі М. І. Астапава, П. Р. Бяляева, В. Б. Далгалёва, У. Д. Ягорава, Ю. М. Захаранку, Ю. Г. Малумава, Г. М. Пятроўскага, С. І. Рухлядзева, Ю. Л. Сівакова, У. У. Шылу.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

12 чэрвеня 1996 г.
г. Мінск.

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 215
### АБ ПЕРШАЧАРГОВЫХ МЕРАХ ПА РЭАЛІЗАЦЫІ ДЗЯРЖАЎНАЙ МАЛАДЗЁЖНАЙ ПАЛІТЫКІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

У мэтах стварэння аптымальных сацыяльна-эканамічных, прававых і арганізацыйных умоў для максімальнага развіцця патэнцыялу маладога пакалення ў справе будаўніцтва суверэннай дзяржавы **пастанаўляю:**

1. Лічыць ажыццяўленне дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь прыярытэтным напрамкам сацыяльнай і эканамічнай палітыкі дзяржавы, дзейнасці цэнтральных і мясцовых органаў кіравання, службовых асоб, маючы на ўвазе:

паляпшэнне сацыяльна-эканамічных, сацыяльна-бытавых умоў жыцця моладзі;

стварэнне ўмоў для духоўнага, культурнага, фізічнага развіцця і аздараўлення моладзі, фарміравання яе маральна-прававой культуры;

устанаўленне для маладых грамадзян сацыяльных гарантый у галіне адукацыі, працаўладкавання, занятасці, забеспячэння вольнага часу, развіцця іх працоўнай актыўнасці;

ажыццяўленне падтрымкі маладой сям'і, таленавітай моладзі, маладзёжных і дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў;

садзейнічанне міжнароднаму супрацоўніцтву моладзі.

2. Пераўтварыць Камітэт па справах моладзі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь у Дзяржаўны камітэт па справах моладзі Рэспублікі Беларусь з колькасцю работнікаў цэнтральнага апарату 22 чалавекі.

3. Дзяржаўнаму камітэту па справах моладзі:

у месячны тэрмін ва ўстаноўленым парадку прадставіць у Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь праект палажэння аб гэтым Камітэце;

сумесна з Дзяржаўным камітэтам па друку і Міністэрствам па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі ў месячны тэрмін вырашыць пытанне аб заснаванні перыядычных выданняў, разлічаных на маладзёжную і падлеткавую аўдыторыю;

сумесна з Міністэрствам адукацыі і навукі, Беларускім інстытутам інфармацыі і прагнозу Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у двухмесячны тэрмін разгледзець пытанне аб стварэнні навукова-даследчага і інфармацыйнага цэнтра па праблемах моладзі.

4. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

распрацаваць да 1 студзеня 1997 г. парадак прадастаўлення льгот пры выдачы маладым грамадзянам і маладым сем'ям доўгатэрміновых крэдытаў на набыццё і будаўніцтва жылых дамоў і кватэр, абзавядзенне хатняй маёмасцю, набыццё прадметаў хатняга ўжытку працяглага карыстання, а таксама кампенсацыі Акцыянернаму Ашчаднаму банку «Беларусбанк» за кошт сродкаў бюджэту страт пры выдачы ім крэдытаў на льготных умовах;

прадставіць прапановы аб унясенні змяненняў у заканадаўства Рэспублікі Беларусь у сувязі з прыняццем гэтага Указа;

падрыхтаваць у трохмесячны тэрмін прапановы аб унясенні змяненняў у заканадаўства Рэспублікі Беларусь па ўстанаўленню падатковых ільгот суб'ектам гаспадарання розных формаў уласнасці, якія прымаюць на работу выпускнікоў навучальных устаноў, а таксама звольненых з радоў Узброеных Сіл ваеннаслужачых тэрміновай службы;

прадставіць у IV квартале 1996 г. прапановы аб унясенні змяненняў у заканадаўства Рэспублікі Беларусь па вызваленню маладзёжных і дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў ад выплаты ўзносаў пры іх рэгістрацыі.

5. Рэкамендаваць кіраўнікам мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў:

стварыць у структуры органаў выканаўчай улады падраздзяленні (аддзелы, камітэты) па справах моладзі з правамі юрыдычнай асобы;

прадугледзець пры фарміраванні мясцовых бюджэтаў штогадовае выдзяленне сродкаў на фінансаванне маладзёжных комплексных і мэтавых праграм;

прадаставіць маладзёжным і дзіцячым грамадскім аб'яднанням права карыстання ў рабоце з дзецьмі, падлеткамі і моладдзю памяшканнямі, што знаходзяцца ў камунальнай уласнасці, або на льготных умовах аплаты іх арэнды, камунальных паслуг як для бюджэтных устаноў і арганізацый, а таксама садзейнічаць выдзяленню памяшканняў для маладзёжных і дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў, калі атрыманы прыбытак такіх аб'яднанняў накіроўваецца на далейшае развіццё іх матэрыяльна-тэхнічнай базы і выкарыстоўваецца для арганізацыі работы з моладдзю і дзецьмі ў вольны час, стварэння рабочых месцаў для незанятай моладзі, аказання матэрыяльнай дапамогі маладым сем'ям і інвалідам, рэалізацыі іншых сацыяльных праграм.

6. Міністэрству замежных спраў аказваць садзейнічанне ў рэалізацыі міжурадавых пагадненняў аб маладзёжным супрацоўніцтве і абменах, інтэграцыі Рэспублікі Беларусь у міжнародныя маладзёжныя структуры, яе ўдзелу ў асноўных праграмах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, Савета Еўропы, іншых міжнародных арганізацый, прадастаўленні ўдзельнікам міжнародных маладзёжных абменаў на аснове ўзаемнасці льготных віз для ўезду ў Рэспубліку Беларусь.

7. Гэты Указ уступае ў сілу з моманту падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

17 чэрвеня 1996 г.
г. Мінск.

_**Уладзімір РУСАКЕВІЧ:**_

## «САЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ ПАВІННЫ ВЫРАШАЦЦА НА ЎСІХ УЗРОЎНЯХ УЛАДЫ»

**Праблемы сацыяльна-культурнай сферы так ці інакш закранаюць інтарэсы кожнага з нас. Дзякуючы праводзімай у дзяржаве палітыцы нават ва ўмовах эканамічнага крызісу пакуль што ўдаецца пазбегнуць абвальных працэсаў у адукацыі, ахове здароўя, культуры, сацыяльнай абароне насельніцтва. Аднак сітуацыя ў гэтых галінах далёка не простая. Аб тым, што зроблена і трэба будзе зрабіць у самы бліжэйшы час для вырашэння найбольш вострых сацыяльных пытанняў, карэспандэнт БЕЛТА папрасіў расказаць віцэ-прэм'ера Уладзіміра РУСАКЕВІЧА.**

— Наша размова адбываецца напярэдадні рэспубліканскай нарады па праблемах сацыяльна-культурнай сферы, на якой з вялікім дакладам выступіць Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, — адзначыў віцэ-прэм'ер. — У ёй прымуць удзел кіраўнікі розных міністэрстваў і ведамстваў, прадстаўнікі рэгіёнаў рэспублікі. Хачу адразу ж падкрэсліць: гэта нарада не выклікана якой-небудзь крытычнай сітуацыяй у сацыяльна-культурнай сферы. Проста наспела неабходнасць скарэкціраваць нашу сацыяльную палітыку, сканцэнтраваць намаганні на нейкіх прыярытэтных напрамках, расставіць патрэбныя акцэнты.

У цяперашніх умовах нельга чакаць вырашэння ўсіх праблем у сацыяльнай сферы толькі за кошт поўнага фінансавання з бюджэту. У праекце Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2000 года вызначаны асноўныя прынцыпы сацыяльнай палітыкі дзяржавы. На этапе крызіснага стану і стабілізацыі эканомікі першарадная ўвага будзе ўдзяляцца падтрымцы сацыяльна неабароненых слаёў насельніцтва. У 1998—2000 гадах намячаецца паступовае расшырэнне прынцыпаў платнасці ў сацыяльнай сферы, у тым выпадку, вядома, калі эканоміка стабілізуецца. Гэта дасць магчымасць крыху «разгрузіць» бюджэт, сканцэнтраваць дзяржаўную падтрымку на катэгорыях насельніцтва, якія сапраўды маюць у ёй патрэбу, зрабіць прыватныя зберажэнні грамадзян істотнай крыніцай унутраных інвестыцый. Плануецца паступовы пераход ад прамога фінансавання сацыяльнай сферы да яе крэдытавання. Гэтыя і іншыя меры дадуць магчымасць падвесці пад фінансаванне сацыяльнай сферы нарматыўную базу, на аснове якой і будуць ажыццяўляцца як праграмы падтрымкі маламаёмных слаёў насельніцтва, так і фінансаванне буйных сацыяльных праграм.

**— Адной з цэнтральных тэм у сродках масавай інфармацыі цяпер стала рэформа агульнаадукацыйнай школы. Якія праблемы, на ваш погляд, павінна вырашыць гэта рэформа?**

— Сярод шматлікіх супярэчнасцей, характэрных для нашай школы, самы галоўны недахоп заключаецца ў тым, што далёка не заўсёды аказваецца выніковым высокі акадэмічны ўзровень патрабаванняў, што прад'яўляюцца ў нас да адукацыі. Веды, уменні і навыкі значнай часткі выпускнікоў вымушаюць жадаць лепшага. Гэта выклікана трыма прычынамі. Па-першае, неадпаведнасцю вучэбных праграм індывідуальным запытам і магчымасцям дзіцяці, па-другое, незапатрабаванасцю часткі ведаў і ўменняў, якія дае школа, і, нарэшце, празмернай вучэбнай перагрузкай з усімі адсюль вынікамі для развіцця і здароўя дзіцяці.

Для ліквідацыі гэтых і многіх іншых недахопаў сучаснай школы трэба правесці шэраг карэнных пераўтварэнняў у арганізацыі, формах і змесце адукацыі. Згодна з распараджэннем Прэзідэнта, пачаты падрыхтоўка і ажыццяўленне школьнай рэформы. Яна дасць магчымасць захаваць усё лепшае, што было дасягнута савецкай школай, улічваючы пры гэтым сусветны вопыт, нацыянальныя традыцыі, асаблівасці сучаснага сацыяльна-эканамічнага развіцця.

**— Апошнім часам сур'ёзную заклапочанасць выклікае грамадская думка, што складваецца вакол недзяржаўных навучальных устаноў. Што вы можаце сказаць наконт гэтага?**

— Пазіцыя ўрада такая: падобныя навучальныя ўстановы, безумоўна, маюць права на жыццё, але пры абавязковым захаванні імі існуючых адукацыйных стандартаў. І тут асаблівая роля адводзіцца кантролю з боку міністэрства і мясцовых органаў кіравання. Скажу шчыра: пакуль гэта работа вядзецца нездавальняюча. Ліцэнзаванне адукацыйнай дзейнасці, акрэдытацыя і атэстацыя недзяржаўных навучальных устаноў праводзяцца недастаткова эфектыўна і глыбока. Таму нядзіўна, што ёсць нямала нараканняў на якасць адукацыі і ўмовы ажыццяўлення навучальнага працэсу ў прыватных ВНУ, тэхнікумах, ліцэях і гімназіях. Цяпер прыняты шэраг канкрэтных мераў па вывучэнню работы гэтых навучальных устаноў. Пасля гэтага будуць зроблены канчатковыя высновы.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

_СКАНДАЛ_

## Апёкшыся на «МММах», і на «Сэкай» варта было б «падзьмуць»

**Не паспелі яшчэ схлынуць хвалі гневу падманутых «Мызай», «Гайстрахам» і іншымі беларускімі «МММамі» укладчыкаў, як у нашай краіне зноў разгарэўся скандал вакол чарговай «фінансавай пірамідьі».**

На гэты раз парогі кабінетаў следчых абіваюць кліенты фірмы «Сэкай», якая спыніла выплаты дывідэндаў сваім укладчыкам.

Варта адзначыць, што скандал гэты наспяваў даўно. Фірма «Сэкай» ці, дакладней, яе кіраўнік Валерый Буяк, ужо даволі працяглы час пад вельмі выгадныя працэнты, скажам так, пазычала ў грамадзян грошы.

Больш таго, на адваротным баку кожнай такой дамовы была змешчана адозва кіраўніка фірмы Валерыя Буяка, які абвясціў сябе стваральнікам новага рэлігійнага вучэння і абяцаў, што ў азначаны тэрмін аддасць не толькі грашовыя дывідэнды, але і ў дадатак узбагаціць кожнага свайго кліента «выдатным энергетычным зарадам». Пэўна для таго, каб канчаткова пераканаць людзей у сваіх здольнасцях тварыць такія «цуды», спадар Буяк узяў сабе яшчэ японскае прозвішча — Бумата Мататацу, а таксама паведаміў, што з'яўляецца яшчэ і каталіцкім святаром і чэрпае звышнатуральныя сілы дадаткова і ў хрысціянскай рэлігіі. Прачытаўшы такую казку, здавалася б, кожны цвярозадумны чалавек толькі б пасмяяўся. А ў нашай краіне падманутых укладчыкаў, наадварот, знайшліся людзі (і нямала), якія панеслі свае грошы ў «Сэкай». Відаць, гэты Буяк-Мататацу сапраўды валодаў магічнай здольнасцю выцягваць з людзей грошы. Згадзіцеся, пасля ўсіх скандалаў з «МММамі», каб у чарговы раз прымусіць паверыць нашых сугр639амадзян у нейкія фінансавыя цуды, трэба мець пэўны талент. Відавочна, многіх кліентаў «Сэкай» падбадзёрвала тое, што фірма сапраўды доўгі час выплачвала абяцаныя дывідэнды. Хоць вопыт «МММаў» сведчыць, што рана ці позна хтосьці павінен у такой «гульні» прайграць. Кліенты «Сэкай», а гэта, у асноўным, зноў жа шматпакутныя даверлівыя пенсіянеры, спадзяваліся, што лёс падманутых укладчыкаў іх міне.

Але дзесьці напрыканцы мінулага месяца, а па словах некаторых укладчыкаў, ужо некалькі месяцаў назад, фірма «Сэкай» спыніла выплаты абяцаных дывідэндаў. Праўда, сам Валерый Буяк, у адрозненне ад шматлікіх будаўнікоў «фінансавых пірамід», нікуды не знік і абяцае вярнуць людзям іх грошы як толькі яму зноў будзе дазволена займацца сваёй фінансавай дзейнасцю. Справа ў тым, што Прэзідэнт Беларусі нядаўна падпісаў указ аб забароне дзейнасці па акумуліраванню грашовых сродкаў фірмамі, якія не маюць адпаведнай ліцэнзіі Нацыянальнага банка. Між іншым, такой ліцэнзіі фірма «Сэкай» і сам Валерый Буяк не мелі, і іх не спынілі ў свой час ні праваахоўныя, ні кантралюючыя органы. І гэта не сведчыць аб нядбайнасці міліцыі ці падатковай інспекцыі. Тут у чарговы раз спрацавала недасканаласць існуючага заканадаўства. Бо, па ўмове дагавора, Валерый Буяк не акумуліраваў грашовыя сродкі, а пазычаў іх у грамадзян. А гэткая дзейнасць дакладна не рэгламентавана заканадаўствам.

Дарэчы, у жніўні мінулага года падатковая інспекцыя Фрунзенскага раёна сталіцы ўзбудзіла супраць Валерыя Буяка справу за ажыццяўленне прадпрымальніцкай дзейнасці без ліцэнзіі. Аднак у хуткім часе справа гэтая была спынена, паколькі дастатковых доказаў саставу злачынства ў дзейнасці Валерыя Буяка не знайшлося. Потым пракуратура, відавочна, добра разумеючы, што рана ці позна хтосьці з укладчыкаў пацерпіць фінансавы крах, зноў аднавіла гэтую справу і занялася праверкай банкаўскіх рахункаў фірмы і яе кіраўніка. Але грошай укладчыкаў на банкаўскіх рахунках праваахоўным органам так і не ўдалося знайсці. Спадар Буяк патлумачыў, што пусціў іх у далейшае абарачэнне, каб выплаціць дывідэнды. Аднак выплата дывідэндаў была прыпынена наогул. У красавіку бягучага года ўжо Цэнтральны РАУС Мінска ўзяўся за расследаванне справы «Сэкай».

Устрывожаныя кліенты фірмы зараз штодня штурмуюць кабінеты следчых, патрабуючы вяртання сваіх грошай. Дакладная колькасць укладчыкаў, ці крэдытораў, Валерыя Буяка невядомая. Паводле некаторых даных, іх прыблізна каля 4 тысяч чалавек.

Так што, зусім верагодна, армія падманутых укладчыкаў на Беларусі ў хуткім часе можа істотна павялічыцца.

Зрэшты, надзея, як вядома, памірае апошняй. І, магчыма, хоць гэтая скандальная гісторыя будзе мець справядлівы канец для тысяч даверлівых пенсіянераў. Дзесьці ж круцяцца заробленыя іх потам і крывёю грошы?

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

_ТРАГЕДЫЯ Ў ДРАЗДАХ: ПРАЦЯГ ТЭМЫ_

## ХТО ТЫ, ГАСПАДАР «СКАЙРАЙТЭРА»?

Працягваюцца раскопкі на месцы расстрэлаў 10 тысяч мірных жыхароў і ваеннапалонных у Драздах. Сёння, калі поўнасцю ачышчана ад зямлі частка рова, падрабязнасці злачынства фашысцкіх вылюдкаў бачны з жахлівай дакладнасцю і дэталямі. Астанкі людзей ляжаць у самых разнастайных, часам проста неймаверных позах. Рукі, ногі, галовы, абутак, адзенне і... бутэлькі, бутэлькі, бутэлькі... Самыя розныя, большасць з вадой, акуратна закаркаваныя. Людзі неслі з сабой ваду, яны спадзяваліся выжыць... Але фашысты вырашылі інакш. Пра гэта красамоўна сведчыць мноства гільзаў ад нямецкіх карабінаў. Каты патронаў не шкадавалі, а вось стралялі недакладна — прыходзілася дабіваць. Чарапы многіх няшчасных раздробленыя. Відаць, ад удараў прыкладамі, некаторыя прабіты кулямі. А ў адным месцы побач з астанкамі ляжаць гільзы ад пісталета «браунінг»...

Карціна расстраляных, якія ляжаць у рове, настолькі жахлівая, што перадаць, расказаць аб убачаным неверагодна цяжка. Хочацца проста маўчаць...

Запомніліся пабляднелыя, усхваляваныя, разгубленыя твары расійскіх тэлевізіёншчыкаў, якія прыехалі здымаць рэпартаж аб страшных знаходках ля Кайдасавай гары, запісаць інтэрв'ю з начальнікам Упраўлення па ўвекавечванню памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны пры Міністэрстве абароны рэспублікі Мікалаем Міхайлавічам Ешчанкам, які, перапыніўшы водпуск, літаральна днюе і начуе на месцы раскопак.

Чым далей ідуць раскопкі, тым больш у пошукаўцаў узнікае пытанняў. На многіх астанках можна убачыць шматкі адзення, якія захаваліся да гэтага часу, відавочна заходнееўрапейскай вытворчасці, а таксама самага разнастайнага абутку. Побач з салдацкімі ботамі суседнічае мадэльны, можна сказаць, элегантны абутак. На расчосках часта сустракаюцца замежныя пазнакі, ёсць нават на чэшскай мове. Ва ўсіх без выключэння загінуўшых ёсць паясныя скураныя рамяні. Часта трапляюцца хімічныя алоўкі, люстэркі, лыжкі, кубкі, кашалькі і манеты. Гэтымі днямі была знойдзена амерыканская аўтаручка, якая захавалася вельмі добра, з залатым пяром і кляймом з надпісам «The SKYWRITER»— «нябесны пісьменнік». На зззяючым на сонцы пяры — кляймо, нейкія літары, лічбы. Хто гаспадар рэдкага для Беларусі «скайрайтэра»? Як ён трапіў у Мінск? Адкуль? Побач з аўтаручкай, якая, дарэчы, нягледзячы на тое, што праляжала ў зямлі 55 гадоў, піша, ляжаў флакон адэкалону. Адэкалон захаваўся, пахне...

Раней ў раскопе быў знойдзены рэдкі гадзіннік фірмы «Інвар», з гравіроўкай, надпісамі, ключ ад англійскага замка!.. Магчыма, сярод расстраляных былі іншаземцы. Тады хто яны? Невядома...

У многіх расстраляных у кішэнях сланечнікавыя семкі. Глядзіш, у ахвяр — акуляры, скураны кашалёк, дыхтоўны абутак, а ў кішэнях... семкі.

**Дык хто ж расстраляны ля падножжа Кайдасавай гары? За што? Ці ўдасца ўстанавіць імя хоць бы адной ахвяры?**

**Для гэтага патрэбна дапамога прафесіянальных гісторыкаў і спецыялістаў, для гэтага патрэбна дапамога дзяржавы, і, перакананы, асабіста Прэзідэнта. Неабходна стварыць дзяржаўную камісію. Тайна трагедыі ля Кайдасавай гары павінна быць раскрыта, а ахвяры яе дастойна ўвекавечаны і павінны набыць вечны пакой.**

**А пакуль пытанні застаюцца.**

**Хто ж ты, гаспадар «скайрайтэра»? Ці даведаемся мы хоць бы адно імя з дзесяці тысяч загінуўшых, хоць бы адно...**

**Мікалай КАЧУК.**

_ВЫРАТАВАННЕ_

## ПЕРШЫЯ ДЗЕЦІ ПАЕДУЦЬ НА АЗДАРАЎЛЕННЕ ЎЖО 15 ЛІПЕНЯ. У ГЕРМАНІЮ

**Працягваецца акцыя «Выратаванне» Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» і газеты «Звязда». Мы чакаем вашых лістоў-зваротаў, калі вашы дзеці хворыя, калі яны не былі на аздараўленні.**

Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля» прыняў рашэнне па большасці лістоў з той пошты, якую атрымалі «Звязда» і непасрэдна фонд у адказ на зварот да чытачоў. Дзеці, пачынаючы з 15 ліпеня (на працягу ліпеня і жніўня), у саставе розных груп, чые паездкі былі запланаваны нашмат раней, будуць адпраўлены ў Германію і Аўстрыю на аздараўленне. Мы разумеем, як напружана чакаюць адказаў людзі, бацькі, чые дзеці ў большасці выпадкаў не праходзілі аздараўлення за мяжой ніводнага разу. Таму мы сёння змяшчаем прозвішчы тых сем'яў, у якія БДФ «Дзецям Чарнобыля» ўжо адправіў пісьмы з просьбай выслаць неабходныя дакументы. Газета называе толькі прозвішчы, бо часам у вашых лістах, паважаныя матулі (ад татаў звычайна пісьмаў-зваротаў газета не атрымлівала), не ўказаны імёны дзетак. Толькі — іх год нараджэння, характар захворвання.

БДФ чакае адказаў-лістоў з адпаведнымі дакументамі ад Каштанаў, Журавых, Венерчукоў (з Калінкавіч і Калінкавіцкага раёна), Лаўровых, Гаўрылаўцаў, Гудаў (Лельчыцы і Лельчыцкі раён), Емяльянчанкаў і Мельнікавых (з Чэрвеньскага раёна), Бурлачэнкаў і Уоська, Даніленкаў (з Мазыра і Мазырскага раёна), Скібаў, Дамашэвічаў, Дрынеўскіх (з Лунінца і Лунінецкага раёна), Федарэнкаў (Смалявіцкі раён), Меланічаў (з Жыткавіч), Міхалькевічаў (в. Салонае Жлобінскага раёна), Шылаў (Лагойскі раён), Сакаўцоў (в. Саска Ліпка Нясвіжскага раёна), Сліжыкаў (з Валожына), Свяцовых (з Беразіно), Таралаў (з Пухавіцкага раёна), Рослікаў (з Маларыты), Анішчанкаў і Плашковых (з вёсак Міхалькі і Каротнкавічы Гомельскай вобласці), Хількевічаў (з Пінска), Станкевічаў (з в. Бярозаўка Калінкавіцкага раёна), Пронiных (в. Глыбокае Гомельскай вобласці), Чаховічаў (з Кобрына), Сянько (з Маладзечна), Вячораў, Лявоненкаў, Ульянкаў (з Добрушскага раёна), Шэпілаў (з Крычава), Таболічаў (са Старобіна), Гміраў (са Столінскага раёна), Рабянкоў, Бабкоў (з Рэчыцкага раёна). Калі вы яшчэ не адказалі на лісты-запыты БДФ, спяшайцеся!

Мы ведаем, што ёсць пытанні ў аўтараў астатніх лістоў. 26 чэрвеня «Звязда» праводзіць «прамую лінію» з Генадзем Грушавым, старшынёй Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля». Ён адкажа на любыя пытанні нашых чытачоў з 12 да 14 гадзін па тэлефоне: 32-38-21.

З пошты, атрыманай апошнімі днямі на адрас акцыі «Выратаванне», уразіў, прымусіў задумацца над усеагульнай нашай бессардэчнасцю ліст з вёскі Цэцеравец Клецкага раёна. Напісаны ён дрыжачай рукой, пра што сведчыць почырк. Іначай бы ў Галіны Васільеўны Новік, якая перанесла інсульт, інваліда II групы, і не атрымалася. «Піша вам маці Марыны, ёй 13 гадоў, часта хварэе. У яе — хранічны гламеруланефрыт, гастрыт страўніка, захворванне шчытападобнай залозы I ступені. Дачушка стаіць на ўліку ў дзіцячай кансультацыі і ў Мінску ў абласной дзіцячай бальніцы, там яна і лечыцца. На аздараўленні ніводнага разу нідзе не была. Пуцёўку купіць не можам. Няма ў нас грошай. Я і муж — інваліды II групы. Я вас вельмі прашу — дапамажыце... Прабачце за дрэнны почырк. Я перанесла інсульт і не магу добра пісаць...» Можна толькі здагадвацца, як жывецца гэтай сям'і, чаго нестае іх трынаццацігадовай дачушцы. Хто-небудзь убачыў усе беды, турботы, усе слёзы гэтай сям'і? Хто-небудзь на месцы, у Клецкім раёне, ёй дапамог?..

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## КАМІСІЯ ПРАВЕРЫЦЬ, ЯК УЛАДЫ СТАЛІНСКАГА РАЁНА РЭАГУЮЦЬ НА ЗАЯВЫ І СКАРГІ ГРАМАДЗЯН

Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Міхаіл Мясніковіч распарадзіўся стварыць камісію для вывучэння мераў, што прымаюцца мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі Столінскага раёна па заявах і скаргах грамадзян. Гэта зроблена ў мэтах выканання Распараджэння кіраўніка дзяржавы ад 24 мая гэтага года «Аб зацвярджэнні мерапрыемстваў па рэалізацыі ў 1996 годзе даручэнняў і крытычных заўваг Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, выказаных у час рабочай паездкі 16—18 красавіка 1996 г. у раёны Брэсцкай, Гомельскай і Магілёўскай абласцей, што пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

Старшынёй камісіі, у саставе якой 13 чалавек, назначаны памочнік Прэзідэнта Сяргей Посахаў. Яму даручана прыцягваць пры неабходнасці да работы ў камісіі іншых спецыялістаў цэнтральных органаў кіравання. Да 1 ліпеня гэтага года Сяргей Посахаў павінен прадставіць кіраўніку дзяржавы інфармацыю аб выніках работы камісіі і ўнесці адпаведныя прапановы.

**БЕЛТА.**

АКЦЫЯ «ЗВЯЗДЫ»

# НА МЕСЦЫ ПАХАВАННЯ АБАРОНЦАЎ БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ — АГАРОДЫ

**Крэпасць над Бугам. Месца, святое для нас. Тут трэба абавязкова пабываць, пабываць кожнаму... Пабываць, каб надыхацца славай нашых дзядоў, надыхацца мужнасцю і акрыяць духам у гэты нялёгкі для нашай Радзімы час. Складаныя пачуцці ахопліваюць тут, сярод палаючых на фоне чэрвенскай зеляніны чырвона-крывавых цагляных развалін. Пачуцці горычы, смутку і гордасці. Горычы — ад трагізму таго, што адбывалася тут 55 гадоў назад, смутку — ад усведамлення вялізнай колькасці ахвяр тых цяжкіх баёў, гордасці — ад разумення таго, што менавіта тут пачалася наша Вялікая Перамога.**

Так, менавіта тут фашысты вымушаны былі ўпершыню ў гэтай вайне адступіць, менавіта тут нашы салдаты прымусілі поўзаць на каленях любімца Гітлера — крывавага бандыта ў пагонах Ота Скарцэні, менавіта тут панесла цяжкія страты хваленая 45-я пяхотная дывізія вермахта і якая пераможна маршыравала па вуліцах Парыжа і Варшавы, менавіта тут фашысцкія правадыры падумалі ўпершыню аб цане паходу на Усход. І не выпадкова, зусім не выпадкова Гітлер, Мусаліні, Кейтэль, Гімлер і іншыя вядомыя нацысты пабывалі ў Брэсцкай крэпасці. Іх цягнула сюды, як злачынца на месца ўчыненага злачынства. Тут пачаўся іх канец, тут быў забіты першы цвік у плаху, якая ім прызначалася...

Смутныя, але гордыя развалы — сведкі многіх падзей. Не ўсе падрабязнасці абароны крэпасці нам вядомы. Не ўсе ведаюць і аб тым, што бой з танкістамі Гудэрыяна крэпасць прыняла 15 верасня 1939 года. Зводны гарнізон пад камандаваннем генерала Войска Польскага Плісоўскага і палкоўніка Хорака мужна змагаўся з пераўзыходзячымі сіламі праціўніка. Палякаў было каля палка, дзесятак гармат і ўстарэлыя французскія танкі «Рэно». Гудэрыян кінуў супраць іх дзве дывізіі, авіяцыю, але ўзяць крэпасць не змог. І толькі пасля таго, як у выніку баёў большасць польскіх байцоў загінула, а сам генерал Плісоўскі быў паранены, немцам удалося ўзяць крэпасць. Жменьцы палякаў на чале з генералам удалося прарвацца праз Цярэспальскія вароты і выйсці з акружэння. Хто былі гэтыя польскія салдаты-героі? Як склаўся іх лёс? Дзе магілы загінуўшых?

Цяпер добра вядома, што немцы потым адступілі, пакінуўшы крэпасць Чырвонай Арміі. Адбыўся і сумесны парад, на якім савецкімі танкістамі камандаваў камбрыг Сямён Крывашэін. Але як дзіўна часам складваецца франтавы лёс! Праз пяць гадоў, у ліпені 1944-га, менавіта генерал-лейтэнант Крывашэін, камандуючы 1-м Чырванаградскім механізаваным корпусам, забяспечыць магчымасць фарсіравання савецкімі войскамі Заходняга Буга, абходу Брэста з захаду і стварэння Брэсцкага «катла» для фашыстаў. Над крэпасцю зноў залунаў чырвоны сцяг.

Упэўнены, што гісторыя крэпасці ў будучым стане адкрываць усё новыя і новыя невядомыя старонкі. Пацвярджэннем служаць і праведзеныя ў маі гэтага года 3-й спецыялізаванай пошукавай ротай асобнага батальёна Міністэрства абароны раскопкі ў паўднёвай частцы Валынскага ўмацавання, у раёне казармы 333-га стралковага палка, у паўднёва-ўсходняй частцы царквы-клуба.

У Кобрынскім умацаванні, на тэрыторыі былога стадыёна, на ўчастку мясцовасці 40х25 метраў былі знойдзены астанкі 74 чалавек. Па расказах мясцовых жыхароў, немцы прымушалі палонных зносіць сюды загінуўшых у крэпасці. Хто яны? Устанавіць пакуль не ўдалося. Устаноўлена, што сярод загінуўшых ёсць дзеці, частка астанкаў не мае канечнасцяў. Ёсць думка, што гэта могуць быць члены сем'яў ваеннаслужачых, што знаходзіліся ў крэпасці. Знойдзеныя астанкі будуць урачыста пахаваны ў мемарыяле Брэсцкай крэпасці 2 чэрвеня 1996 года ў час тэлемарафона.

Вяліся раскопкі і ў паўночна-заходняй частцы Валынскага ўмацавання, дзе за 50 метраў ад пешаходнага моста 22 чэрвеня 1972 года былі знойдзены астанкі сямі воінаў і сабакі-аўчаркі. У гэты раз пошукі выніку не далі.

У раёне казармы былога 333-га стралковага палка пры раскопках знойдзены пахаваныя чалавечыя астанкі, даўнасць пахавання якіх, як устанавіла экспертыза, звыш 55 гадоў і да перыяду Вялікай Айчыннай не адносяцца. Яшчэ адна загадка крэпасці.

На жаль, ёсць выпадкі, калі губляецца ўжо знойдзенае. Салдаты 3-й спецыялізаванай роты пад камандаваннем капітана А. Кавальскага спрабавалі знайсці месца пахавання 37 загінуўшых абаронцаў крэпасці, якія ўжо аднойчы былі пахаваны і на іх магіле стаяў помнік. На фатаграфіі, зробленай у 1983 годзе, помнік яшчэ ёсць, але варта было пакінуць гэтае месца воінскай часці, што дыслацыравалася тут, як нечая бязлітасная рука знесла яго і схавала на 2-м паверсе былой казармы палкавой школы 84-га стралковага палка. Цяпер на месцы пахавання агароды. Ці не горкі ўраджай? Знайсці магілу не ўдалося. Вось так. Адны шукаюць і будуюць, іншыя разбураюць... Сорамна і балюча...

Сёлетні, 1996 год асаблівы для крэпасці-героя. Гэта год не толькі 55-гадовага юбілею гераічнай абароны: у чэрвені крэпасці споўнілася 160 гадоў — яна была закладзена 1 чэрвеня 1836 года. 25 верасня 1971 года Пётр Міронавіч Машэраў запаліў агонь у мемарыяльным комплексе, які гарыць ужо 25 гадоў. І нарэшце, 8 лістапада гэтага ж года 40 гадоў Музею абароны Брэсцкай крэпасці, які прыняў першых наведвальнікаў у 1956 годзе.

**І не выпадкова, што менавіта ў гэтым годзе па рашэнню Прэзідэнта і ўрада рэспублікі праводзіцца тэлемарафон у Брэсцкай крэпасці-героі. Амаль усе краіны СНД далі згоду на ўдзел у фінансаванні рэканструкцыі і абнаўлення мемарыяла. А сродкаў трэба нямала — больш за 200 млрд. рублёў. Мемарыял у свой час будаваўся ўсімі рэспублікамі СССР — граніт везлі з Житоміршчыны, тытан для штыка-абеліска — з Урала, а выраблялі яго на Запарожскім металургічным...**

**Абаранялі крэпасць усёй грамадой, узводзілі мемарыял усёй грамадой, і аднановім, упэўнены, таксама ўсёй грамадой. Святыню нашу, сімвал мужнасці, гонару і адзінства.**

**Мікалай КАЧУК.**

# «САЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ ПАВІННЫ ВЫРАШАЦЦА НА ЎСІХ УЗРОЎНЯХ УЛАДЫ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

**— Яшчэ адна вострая тэма — зарплата работнікаў адукацыі, а таксама затрымкі з яе выплатай. Якія прымаюцца меры, каб знізіць вастрыню гэтай праблемы?**

— Урад разумее, што педагогу, як і работнікам іншых бюджэтных галін, сёння нялёгка, і шукае любыя магчымасці для паляпшэння іх матэрыяльнага становішча. Новая Адзіная тарыфная сетка дала магчымасць крыху ўзняць узровень зарплаты настаўнікаў і прафесарска-выкладчыцкага саставу. Па меры магчымасцей будуць разглядацца і іншыя шляхі павышэння аплаты працы работнікаў бюджэтнай сферы, у прыватнасці такія, як матэрыяльная дапамога тым, хто мае патрэбу, павелічэнне сродкаў на прэміраванне, даплаты. Урадам ужо дадзены адпаведныя даручэнні наконт гэтага.

Што ж датычыць несвоечасовасці выплаты зарплаты, то прычыны гэтага добра вядомыя. У краіне робіцца ўсё магчымае, каб ажывіць эканоміку, папоўніць бюджэт неабходнымі паступленнямі. Я думаю, ніхто не стане адмаўляць: пры першай жа магчымасці зарплата выплачваецца менавіта работнікам адукацыі. За выключэннем некалькіх выпадкаў, у гэтай сферы няма запазычанасці па зарплаце, якая б перавышала адзін месяц. Цяпер адшукваюцца сродкі, каб поўнасцю пагасіць запазычанасць.

**— З усіх сацыяльных сфер у самай складанай сітуацыі апынулася сістэма аховы здароўя рэспублікі. Якія захады робяцца, каб вывесці гэту галіну з крызісу?**

— Наша ахова здароўя перажывае складаны этап адаптацыі да новых сацыяльна-эканамічных і медыка-дэмаграфічных умоў. У рэспубліцы працягвае падаць нараджальнасць, а смяротнасць расце. Звязанае з гэтым старэнне насельніцтва патрабуе дадатковых затрат на сацыяльную абарону і паслугі аховы здароўя. Акрамя таго, з-за негатыўных сацыяльных з'яў павялічваюцца захворванні на сухоты, вострыя кішэчныя інфекцыі, сіфіліс, алкагалізм. Пагаршаюцца паказчыкі стану здароўя дзяцей, расце інваліднасць. Пры гэтым патрэбнасць галіны ў фінансаванні забяспечана толькі на 60 працэнтаў, лекамі — на 43,9 працэнта, абсталяваннем — на 62,3, харчаваннем для хворых — на 72,6 працэнта.

Патрабуецца паступовае, прадуманае рэфарміраванне сістэмы айчыннай аховы здароўя. Канцэпцыя гэтых рэформаў ужо падрыхтавана Міністэрствам аховы здароўя, але яна мае патрэбу ў дэталёвай прапрацоўцы і абмеркаванні. Неабходна выпрацаваць і ажыццявіць вельмі жорсткія меры па эканоміі рэсурсаў без скарачэння аб'ёмаў і даступнасці асноўных відаў медыцынскай дапамогі, навядзенню дысцыпліны і парадку ў галіне. Гэты год павінен стаць пераломным у вызначэнні стратэгіі і палітыкі рэформаў аховы здароўя.

**— Якая сітуацыя з забеспячэннем насельніцтва рэспублікі медыкаментамі?**

— Людзі, напэўна, памятаюць, што яшчэ 2-3 гады таму паліцы нашых аптэк багаццем не вылучаліся, і трэба было патраціць нямала часу і сіл, каб купіць неабходныя лекі. На працягу мінулага года была праведзена работа па рэарганізацыі сістэмы лекавага забеспячэння. Гэта дало магчымасць напоўніць рынак медыкаментамі, павялічыць рэалізацыю тавараў аптэчнага асартыменту ў 7 разоў, скараціўшы бюджэтныя датацыі. Праўда, у хуткім часе ўзнікла іншая праблема — высокія цэны на медыкаменты. У мэтах упарадкавання цэнаўтварэння на лекавыя сродкі для суб'ектаў гаспадарання ўсіх формаў уласнасці і ажыццяўлення мераў па сацыяльнай абароне насельніцтва Кабінетам Міністраў была прынята пастанова «Аб рэгуляванні цэн на лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння і медыцынскай тэхнікі».

Ацэньваючы ў цэлым работу нашай сістэмы аховы здароўя, трэба прызнаць, што ў Беларусі ўсё ж удалося забяспечыць стабільную работу медыцынскіх устаноў, захаваць даступнасць медыцынскай дапамогі. Пагаршэнне здароўя насельніцтва рэспублікі менш выражана, чым у іншых краінах былога СССР.

**— Немалую напружанасць у грамадстве выклікаюць затрымкі з выплатай пенсій. Што ўдалося зрабіць у вырашэнні гэтай праблемы?**

— Складаны стан на вытворчасці самым прамым чынам адбіўся на выплатах пенсій, і кіраўніцтва рэспублікі ўдзяляе вельмі пільную ўвагу гэтаму пытанню, таму сітуацыю ўдалося крыху нармалізаваць. Але, нягледзячы на прымаемыя меры, запазычанасць прадпрыемстваў і арганізацый Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва расла так імкліва, што зводзіла на нішто ўсе намаганні па фінансавай стабілізацыі фонду і забеспячэнню своечасовай выплаты пенсій. Сёння гэта запазычанасць складае амаль адзін трыльён рублёў.

Цяпер у сувязі з праблемай выплаты пенсій з'явіліся прапановы аб магчымым павелічэнні памераў узносаў на сацыяльнае страхаванне, аб адлічэнні ўзносаў суб'ектамі гаспадарання непасрэдна ў бюджэт і шэраг іншых. Што датычыць павышэння памераў узносаў, то гэта, папершае, не лепшым чынам адаб'ецца на жыццёвым узроўні працуючых грамадзян і іх сем'яў, па-другое, для многіх суб'ектаў гаспадарання стане ўвогуле непасільным. Прапанова ж аб адлічэнні ўзносаў непасрэдна ў бюджэт патрабуе вельмі глыбокай прапрацоўкі.

**— Цяпер у нашым пенсіённым забеспячэнні склалася такая сітуацыя, што на велічыню пенсіі ветэранаў іх працоўны стаж мае нязначны ўплыў, усе пенсіянеры ўраўнаваны паміж сабой. Ці будуць у бліжэйшы час прыняты якія-небудзь меры па дыферэнцыяцыі памераў пенсій і іх павышэнню?**

— Безумоўна, пенсіі невялікія. Аднак у сілу ўсё тых жа эканамічных прычын істотная перабудова вылічэння пенсій немагчыма, як немагчыма і павелічэнне дыферэнцыяцыі ў памерах пенсій. Толькі эканамічны ўздым мог бы даць магчымасць ажыццявіць жадаемае як у плане павелічэння мінімальных пенсій, так і ў плане большай залежнасці велічыні пенсіі ад папярэдняга заработку. Хоць трэба адзначыць, што з улікам даплат сярэднямесячная пенсія летась склала 323 тысячы 800 рублёў — гэта 43 працэнты ад сярэднямесячнай заработнай платы ў рэспубліцы. У 1994 годзе гэты паказчык складаў усяго 33 працэнты.

**— Праблемамі пенсіённага забеспячэння, аховы здароўя, адукацыі не абмяжоўваецца кола сацыяльных пытанняў, што патрабуюць пастаяннай увагі ўрада...**

— З-за недахвату грашовых сродкаў, а таксама па шэрагу іншых прычын у крытычным становішчы аказалася сістэма кінавідэапракату і кінавідэавытворчасці. Скарачаецца колькасць кінаўстановак, за апошнія пяць гадоў закрыта і перапрафілявана 15 кінатэатраў, і гэты працэс можа прыняць абвальны характар. У сферы культуры шмат і іншых нявырашаных праблем. Няпростая сітуацыя і ў друку рэспублікі.

Сацыяльны феномен апошніх гадоў, які атрымаў назву «рэлігійнага адраджэння», заключаецца ў масавым адыходзе насельніцтва ад атэізму і росце прарэлігійных настрояў. Сітуацыя ў рэспубліцы ў цэлым спакойная. Але гэта не азначае, што няма парушэнняў заканадаўства ў рэлігійнай сферы. Мы не маем права дапусціць уцягвання нашых грамадзян, асабліва моладзі, у псеўдарэлігійныя групоўкі, якія ламаюць лёсы людзей, шкодзяць іх здароўю.

У цяперашні няпросты час урад шукае новыя арыенціры і падыходы ў вырашэнні праблем сям'і, жанчын, аховы мацярынства і дзяцінства, разумеючы, наколькі гэта важна. Асаблівую заклапочанасць выклікала і выклікае вырашэнне пытанняў сацыяльнай рэабілітацыі інвалідаў, якіх у рэспубліцы налічваецца 418 тысяч.

Аддаючы належнае таму, што зроблена за апошні час у галіне фізічнай культуры і спорту, надзеі на далейшае паляпшэнне гэтай работы ўрад звязвае з нядаўна створаным Міністэрствам спорту і турызму. Новаму міністэрству трэба будзе правесці складаную і карпатлівую работу па стварэнню і функцыянаванню адзінага механізма спорту і турызму ў краіне. Істотнага паляпшэння патрабуе работа па аздараўленню насельніцтва, развіццю фізкультурнага руху.

Вядома, адна з важнейшых праблем, што знаходзіцца ў полі нашага зроку, — работа з моладдзю. 17 чэрвеня мы яе дэталёва абмеркавалі ў Прэзідэнта рэспублікі. Вынікі гэтай сустрэчы абнадзейваюць.

Можна яшчэ доўга працягваць пералік самых надзённых праблем. Усе яны знаходзяцца пад самым пільным кантролем урада і стануць прадметам дэталёвага абмеркавання на маючай адбыцца нарадзе. Думаю, чытачам будзе цікава даведацца аб ёй больш падрабязна. Тым больш, што ў нарадзе прымуць удзел кіраўнікі з месцаў, практыкі, якія выкажуць свае думкі аб шляхах вырашэння сацыяльных праблем. Таму мы пастараемся праз сродкі масавай інфармацыі расказаць аб выніках нарады, зробленых высновах, аб думках яе ўдзельнікаў.

У заключэнне хацеў бы падкрэсліць, што ўсе пазітыўныя пераўтварэнні ў сацыяльна-культурнай сферы магчымы толькі пры ўмове, калі ўсе мы разам, на ўсіх узроўнях улады, будзем займацца гэтымі пытаннямі паўсядзённа, зацікаўлена, адказна. І не толькі як дзяржаўныя работнікі, а перш за ўсё як грамадзяне сваёй рэспублікі.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

ГЛЫБІНКА

# ГІМН АБЫВАЦЕЛЮ

**Так атрымліваецца, што рэгулярна магу назіраць за жыццём аднаго паселішча, вёскі. Яна зусім невялікая, на ўскраіне калгаса, з тых, некалі неперспектыўных. Тут ані клуба, як кажуць, ані крамы. Тэлевізар далёка не ў кожнай хаце, радыёпрыёмнікаў яшчэ менш, ну а праведная радыёсетка, гэты рудымент пяцігодак стварэння, большую частку года маўчыць. Так што частка жыхароў увогуле пазбаўлена сувязі са знешнім светам. Газет выпісваецца вельмі мала — тая што танней і дзе ёсць праграма тэлебачання. Пра кнігі і гаварыць няма чаго.**

Калгас «рэкруціруе» з вёскі двух трактарыстаў і адну жанчыну на цялятнік. Астатнія пенсіянеры. У кожнай сям'і, у кожнага самотніка, зразумела, соткі займаюць у іерархіі каштоўнасцей першае месца. Жыццё складваецца ў вёсцы з двух асноўных заняткаў — цяжкая праца на зямлі і ў хляве, калі там яшчэ захавалася жывёла, і п'янства. Не п'юць у вёсцы лічаныя сем'і, пенсіянеры. Тут праца суседнічае з клопатам аб дзецях.

П'юць на святы — няважна якія, рэлігійныя альбо «чырвоныя», — п'юць без «прычыны», п'юць у сем'ях, аднаасобна, п'юць у кампаніях. Цяпер, каб урабіць не грады, а асноўныя соткі, што ў полі, чакаюць не каня (дзякаваць Богу, з гэтым у вёсцы проста) — чакаюць пенсіі. Бо без грошай як жа ты напоіш талаку? А работа ў талацэ абавязкова заканчваецца застоллем да песень, а найбольш да сварак. Любая прычына — радасная альбо сумная, якая збірае людзей разам, абавязкова цягне за сабою застолле. З кожным годам усё бяднейшае на закуску, але не на выпіўку.

Вось пасадзілі бульбу, талака рушыла ў хату за стол. А бабуля, якая ўжо не можа дапамагаць у полі з-за сваіх гадоў, але якая яшчэ адчувае неймаверную цягу да чаркі, топчацца ў панадворку. Урэшце рашаецца, заходзіць. Яе ледзь не сілай выправоджваюць, але чарку наліваюць, разумеюць, што ну вельмі хочацца. Як гэта ні дзіўна, але тут не гоняць самагонкі. Доўга не мог знайсці прычыны. Але потым здагадаўся. Каб яе гнаць, трэба паставіць брагу і чакаць, пакуль яна выходзіцца. Брагу калі-нікалі ставяць, ды толькі яна выпіваецца да працэсу перагонкі ў «сырым», скажам так, выглядзе.

Вось вяртаецца дадому дзядзька. І яшчэ далёка да свайго панадворку пачынае, сціскаючы кулакі, брыдка лаяцца ў адрас жонкі. Праз некалькі хвілін ён будзе яе біць, ганяць па хаце і ля хаты, але ніхто не ўмешваецца. Прызвычаіліся. Ды, у рэшце рэшт, яны кожны раз мірацца і, вядома ж, прысутнічае «міравая».

У гэтай вёсцы, дарэчы, ёсць усіх патроху — беларусаў католікаў і праваслаўных, рускіх і іншых народаў.

Люмпенізацыя — слова названае. Яе класічных характарыстык няма таму, што ўсё-такі вёска. Зямля-карміцелька не толькі корміць, але і прымушае працаваць, пакуль служаць рукі, не зусім апускацца.

Я не стараўся ачарніць, альбо згусціць фарбы. Жыццё дае прыклады і больш страшныя. Жыццё ў правінцыі толькі знешне запаволенае і ціхае. І тут адбываюцца няўхільныя зрухі, перамены. І, на жаль, не ў лепшы бок, калі браць чалавека як асобу.

Шматлікія мінулыя выбары высвецілі слоўца «электарат». Што ж, і насельнікі той вёскі, і насельнікі іншых вёсак і гарадкоў правінцыі, яўна пазначаныя люмпенізацыяй, уваходзяць у гэты самы электарат. Яны пойдуць галасаваць, не ўсе, але пойдуць. Асабліва калі падвязуць, калі будуць ведаць, што зранку, ад шасці гадзін, на выбарчым участку — колькі душы заўгодна і піва, і мацнейшага, і на дзіва ад астатніх дзён таннейшага. Пойдзе і памянёны вышэй дзядзька. З пахмелля, з усёй сваёй злосцю на жыццё, на жонку, на адсутнасць грошай. Галасуе гэта частка насельніцтва інтуітыўна. Менавіта яна паддаецца самай немудрагелістай, самай прымітыўнай і таму самай падманлівай агітацыі.

На іншым полюсе — грамадзяне, тыя, хто адчуў сваю прыналежнасць да народа і грамадства, хто пачынае ўсведамляць законы сацыяльнага развіцця, імкнецца ўздзейнічаць, адстойваць альбо, наадварот, руйнаваць. Грамадзян у правінцыі, вядома ж, менш, чым у буйных гарадах. Таму на агульным шэрым фоне яны досыць прыкметныя. І ў кожным раёне абавязкова ёсць некалькі фігур, якія выдзяляюцца сваёй палітызаванасцю, схільнасцю да лідэрства. Гэта незалежна ад пазіцыі ці партыйнай прыналежнасці. Але разам з тым і гэтыя правінцыяльныя лідэры не могуць пазбавіцца свайго правінцыялізму. Я ніяк не магу аднесці да грамадзян усю інтэлігенцыю — калі лічыць за яе настаўнікаў, урачоў, аграномаў, людзей з вышэйшай адукацыяй. Пераважная большасць іх вызначаецца поўнай адсутнасцю менавіта грамадзянскасці, у плане духоўным і палітычным мала адрозніваецца ад астатняй масы.

Палітычныя партыі ў правінцыі так і не атрымалі далейшага развіцця. Філіі БНФ, Грамады ў сваім росце былі амаль што спынены пасля выбараў у Вярхоўны Савет. Пройгрыш не толькі падарваў унутраную энергію тых грамадзян, хто актыўна ўключыўся ў работу гэтых філій, ён даў вялікія перавагі праціўнікам. Не спатрэбілася ні «амона», ні спецмашын. У большасці раённых актывістаў, якія тут, як кажуць, навідавоку, пацiху прыціснулі зусім не адміністрацыйнымі мерамі. Проста ў кожнага ёсць сям'я, якую трэба карміць. А згубіць працу, якая амаль заўжды гуманітарнага напрамку, сёння вельмі лёгка. Вядома ж, не ва ўсіх раёнах ціск аднолькавы, ёсць і грамадзяне, якія не знізілі свайго палітычнага напалу, але агульны малюнак менавіта такі.

Знешне добра пачуваюць сябе ў мясцовых арганізацыях камуністаў. У Браславе, напрыклад, нядаўна ў рамках раённай створана яшчэ і грамадская арганізацыя ПКБ. Але праціўнік, асноўныя праціўнікі, пераможаны, адступілі. Што далей? На мой погляд, у радах гэтых правінцыяльных арганізацый пануе пэўная разгубленасць, якую не можа кампенсаваць чыста арганізацыйная дзейнасць — сходы, узносы і г. д.

Ну а пасярод гэтых двух полюсаў знаходзіцца звычайны наш абывацель. Ён цікавіцца падзеямі ў грамадстве, прыглядаецца да дзейнасці грамадзян, але толькі з пункту гледжання таго, як усё гэта адаб'ецца на яго асабістым жыцці і дабрабыце. Гэта несвядомы індывідуаліст, кансерватар па сутнасці. Ён вельмі рэдка мяняе свае погляды, схільны заўжды падтрымліваць улады альбо рэальную сілу. Можна гарантаваць, што ён, менавіта правінцыяльны, а не гарадскі, абывацель не пойдзе на плошчы ні пад якімі лозунгамі. Ён можа пайсці, але ў тым выпадку, калі гэта будзе ініцыіравана ўладамі і нявыхад звяжацца нейкім чынам з асабістымі непрыемнасцямі. Ён ніколі не шарахнецца рэзка ў правы ці левы бок. І ў гэтым стабільнасць нашага грамадства.

Абывацель жыве, у рэшце рэшт, законамі, дадзенымі нам Богам. Клопатам аб сям'і, яе дабрабыце, сваім аўтарытэце перад суседзямі, сваім законапаслухмянстве. Між іншым, грамадзяне, якія імкнуцца да шчасця народа, вельмі часта гэтыя законы парушаюць з-за празмернага імкнення. Ну а люмпен са сваёй абыякавасцю і бяздумнасцю парушае таксама. Менавіта для абывацеля вельмі вялікае значэнне маюць царква, касцёл. У часы ваяўнічага атэізму ён ад іх крыху адхінуўся, але ўсё роўна адчуваў тую цвёрдасць і трываласць, якія дае вера. І таму сёння так няўхільна цягнецца да яе зноў. Падкрэслю, што гэтыя высновы я раблю ў асноўным з назіранняў над заходнебеларускай правінцыяй.

Безумоўна, нельга правесці ясную рысу паміж палюсамі і агульнай масай абывацеляў. У кожным з нас прысутнічаюць многія і палярныя і непалярныя рысы. Цэласныя натуры — вялікая рэдкасць. У маім родным гарадку ёсць добра знаёмы мне член партыі камуністаў. У часы, калі КПСС яшчэ пачувала сябе вельмі моцна, а яе апаненты толькі пачалі падаваць голас, ён быў зацятым маім палітычным праціўнікам. Пасля Белавежы, абвяшчэння суверэнітэту, курсу на беларусізацыю стаў раптам вельмі ветлівым, стараўся паздароўкацца за руку. Пасля выбараў і рэферэндуму гэты чалавек стараецца проста не заўважаць пры сустрэчы. Варожасці яшчэ няма, ёсць імкненне пачакаць: а куды ж павернецца вецер?

Грамадзян зусім няшмат, ды і люмпен у нас на Беларусі хоць і расце колькасна, у асноўным з-за эканамічнага спаду, не можа адыгрываць пакуль што якойнебудзь вызначальнай ролі. Аснова нашага грамадства — абывацель. Цяпер сярод усіх палітычных партый і рухаў шмат гавораць аб прымірэнні, згодзе, «круглым стале». Як мне здаецца, пераважае тут не прымірэнне як прызнанне права на існаванне ўсіх поглядаў і падыходаў, а прымірэнне як імкненне тых ці іншых сіл замацаваць права на сваю перамогу. А я заклікаў бы да іншага прымірэння, да прымірэння з абывацелем: адкінуць крайнасці і амбіцыі, звярнуцца да простых праблем простага чалавека. І вырашаць іх па-чалавечы.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

# У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 17 красавіка 1996 г. № 150 «Аб удасканальванні кіравання чыгуначным транспартам і дарожнай гаспадаркай Рэспублікі Беларусь» прынятай пастановай ускклаў на Міністэрства транспарту і камунікацый функцыі па кіраванню дарожнай гаспадаркай, вызваліўшы ад выканання гэтых функцый Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва.

Гэтай жа пастановай створаны камітэт па аўтамабільных дарогах Міністэрства транспарту і камунікацый з правамі юрыдычнай асобы. Яму перададзены з распараджэння Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва прадпрыемствы і арганізацыі згодна з дадаткам.

Міністэрству транспарту і камунікацый даручана распрацаваць і зацвердзіць палажэнне аб Камітэце па аўтамабільных дарогах і забяспечыць вырашэнне іншых пытанняў, звязаных са стварэннем гэтага камітэта.

Міністэрству эканомікі і Міністэрству фінансаў сумесна з Міністэрствам транспарту і камунікацый, Міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва неабходна ў тыднёвы тэрмін унесці ва ўстаноўленым парадку ў Кабінет Міністраў прапановы аб колькасці і фондзе аплаты працы работнікаў Міністэрства транспарту і камунікацый (уключаючы цэнтральны апарат Міністэрства і Камітэта па аўтамабільных дарогах) і Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, а таксама аб расходах на іх утрыманне.

Акрамя таго, Міністэрству транспарту і камунікацый, Міністэрству архітэктуры і будаўніцтва, Беларускай чыгунцы даручана падрыхтаваць і прадставіць ва ўстаноўленым парадку да 1 ліпеня 1996 года ў Кабінет Міністраў прапановы па ўнясенню ў палажэнні аб гэтых міністэрствах, у Статут Беларускай чыгункі і, пры неабходнасці, у іншыя акты заканадаўства змяненняў, што вынікаюць з указа і гэтай пастановы.

**БЕЛТА.**

# СПЕЦКУРСЫ ДЛЯ ДЭПУТАТАЎ

Прапановы па арганізацыі вучобы парламентарыяў паступілі ў Камісію па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы ад шэрага вышэйшых навучальных устаноў і адукацыйных арганізацый.

Азнаёміўшыся з прапанаванымі праграмамі, члены камісіі прыйшлі да вываду аб мэтазгоднасці вучобы дэпутатаў як на кароткіх, так і на разлічаных на гадавы перыяд курсах.

Як паведаміла прэс-служба Вярхоўнага Савета, Міжнародны інстытут менеджменту прапануе дэпутатам азнаёміцца з псіхалогіяй дзелавых адносінаў і прафесіянальным этыкетам, практыкай сусветнага парламентарызму. Праграму кароткіх курсаў па асновах права, эканамічнай тэорыі, сувязях з грамадскасцю, сучасных інфармацыйных тэхналогіях прадставіў Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы і гуманітарнай адукацыі. Павінны зацікавіць заканадаўцаў і спецкурсы недзяржаўнай Акадэміі парламентарызму і прадпрымальніцтва па палітыцы, паліталогіі, эканоміцы, парламентарызму.

**БЕЛТА.**

РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ

# ШУКАЙЦЕ СВАЕ АЛІМЕНТЫ Ў ЦЮМЕНІ ЦІ Ў ААН...

Вырашыла напісаць ад адчаю. Я ўжо не ведаю, куды мне звяртацца і дзе шукаць праўду? Пішу вам таму, што прачытала ў вашай газеце за 1.06.96 г. заметку «Куды збег тата?» Аказваецца, калі бацька дзіцяці ўхіляецца ад аліментаў, то на падставе арт. 120 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь прадугледжваецца адказнасць да двух гадоў пазбаўлення волі. Тады чаму мой былы муж не нясе такога пакарання? Я ўказваю яго дакладны адрас, а мне ніхто нічым дапамагчы не можа! Аліменты я атрымлівала апошні раз у 1995 г. І то нерэгулярна, а цяпер іх наогул няма. Вось адрас майго былога мужа:

626720, Цюменская вобл., Пурсеўскі р-н, п. Тарко-Сале, вул. Сепаманская. Лебядзеў Васіль Леанідавіч.

Пісала я і ў нарсуд, і ў пракуратуру, і на работу па месцы яго жыхарства. Адказаў няма. А як мне жыць? Я адна выхоўваю дзіцяі. Дапамогі з боку ніякай. Дапамогі на яго па месцы сваёй работы таксама не атрымліваю, бо ў мяне няма даведак аб аліментах і з работы аб заработнай плаце майго мужа. Дзе мне іх узяць? Я звярталася ў Бабруйску і ў нарсуд, і ў пракуратуру, і ўсюды мне раяць ехаць у Цюменскую вобласць і там шукаць аліменты або пісаць у ААН. Але гэта нерэальна. Я працую ў Бабруйскім РКБА цырульнікам на вёсцы. Зарплата мізэрная, за сакавік яна склала 30.000 рублёў. Як можна на гэтыя грошы пражыць удваіх з дзіцем? І наогул, ехаць у Цюмень, а на што? Калі б у мяне былі грошы, я не псавала б свае нервы і здароўе ў пошуках дзесьці праўды.

Адкажыце мне, калі ласка, ці магчыма неяк зрабіць, каб я лічылася маці-адзіночкай? Няхай мне плаціць грошы дзяржава на маё дзіця, калі яна не можа мне дапамагчы спагнаць аліменты з адказчыка.

І яшчэ адно пытанне. Ці павінна арганізацыя даплачваць мне да мінімальнай зарплаты, калі ў мяне такая не выходзіць?

Вельмі прашу мне адказаць. Загадзя вам удзячная.

**Таццяна ЛЕБЕДЗЕВА.**

*г. Бабруйск.*

# «СКАЖЫЦЕ ДЗЯКУЙ, ШТО ЯШЧЭ ПЛАЦІЦЬ...»

Прачытала заметку «Куды збег тата?» («Звязда» за 1 чэрвеня) і мне захацелася напісаць пра тату сваіх двух сыноў. Шэсць гадоў я «атрымліваю» на іх аліменты ад былога мужа А. Скараходава. Увесь гэты час ён жыве з намі ў адным горадзе і нідзе не затойваецца, бо яму дапамагаюць добрыя дзядзькі і цёткі не плаціць нармальна аліменты. Спачатку кааператыў «Дызайнер» прыкрываў яго, а пасля маіх скаргаў стаў гэта рабіць нейкі іншы кааператыў у Гродне, дзе ён лічыўся на рабоце, а сам гандляваў машынамі, якія прыганяў з Польшчы. І толькі пасля маіх скаргаў В. Ціхіні, пасля інфляцыі мне з вялікай цяжкасцю заплаціў капейкі ў кабінеце судовага выканаўцы.

Потым пачаў насіць даведкі з падатковай інспекцыі, а па гэтых паперках плаціў мне на дваіх дзяцей грошай столькі, што я магла купіць 1 кг мяса. А судовы выканаўца гаварыў, каб я яшчэ казала «дзякуй», што ён плаціць. Тады схадзіла ў падатковую інспецыю, папрасіла, каб такіх даведак не давалі. Паслухалі і больш сапраўды не далі. Маўляў, няхай з сярэдняга заработку па рэспубліцы плаціць. А былы муж палічыў, што багата буду атрымліваць.

Ён ідзе дзяжурыць на платную аўтастаянку, якую арандуе прыватны прадпрымальнік. А па той прычыне, што там быццам вядзе бухгалтэрыю па сумяшчальніцтву яго стрыечная сястра, дык я атрымліваю ўсяго восемдзесят тысяч. Скажыце, дзе цяпер у мужыкоў заробак у 240 тысяч рублёў? Але скардзіцца няма каму. Судовы выканаўца лішніх клопатаў на сябе браць не хоча, ды і гэтыя капейкі ніхто своечасова не плаціць. Я яшчэ за сакавік не атрымлівала, а мне сказалі, што Скараходаў ужо там не працуе: купіў ларок. Вось я ўжо і думаю, якую ж даведку ён цяпер прынясе, на каго аформіў гэты ларок, каб дзецям не плаціць.

Я ведаю, што калісьці аліменты складалі мінімум 25 працэнтаў ад заробку. А цяпер што, няма такога закона? Вы пішаце ў газеце аб правах маці-адзіночкі. Чаму ж тады дзяржава не дапамагае ім гадаваць дзяцей, а бацькі ідуць на ўсялякія хітрыкі?

**СКАРАХОДАВА.**

**(імя і імя па бацьку ў пісьме не ўказаны).**

*г. Светлагорск.*

У КАМІСІЯХ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

# СВАБОДУ СЛОВА ГАРАНТУЕ ЗАКОН

**Работа над праектам закона «Аб тэлебачанні і радыёвяшчанні» канцэптуальна завершана — да такой высновы прыйшлі яго распрацоўшчыкі.**

На чарговым пасяджэнні рабочай групы, якое прайшло ў падкамісіі па СМІ, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі парламенцкай камісіі па правах чалавека, былі абмеркаваны заўвагі і прапановы да законапраекта, што паступілі ад Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі і Міністэрства сувязі.

Асаблівая роля ў новым законе, паводле слоў старшыні падкамісіі Аляксандра Дабравольскага, адводзіцца незалежнаму пазаведамаснаму дзяржаўнаму органу — Нацыянальнаму камітэту па тэлерадыёвяшчанню, у функцыі якога ўваходзіць кантроль за захаваннем заканадаўства, а таксама выдача грамадзянам ліцэнзій на права стварэння радыё- і тэлестанцый. Гэты прававы дакумент, на думку распрацоўшчыкаў, будзе садзейнічаць зацвярджэнню ў нашым грамадстве прынцыпаў, якія замацаваны ў Канстытуцыі і гарантуюць свабоду слова, права на атрыманне рознабаковай, праўдзівай інфармацыі.

**Прэс-служба ВС РБ.**

ПОГЛЯД

# ДВУХМОЎЕ: РОЎНАСЦЬ ДЫК РОЎНАСЦЬ!

По праспекце Францішка Скарыны, вялікага беларуса, адзін за адным праносяцца аўтобусы, тралейбусы і машыны розных марак. Бадай, на кожнай другой з іх бялеюць, чырванеюць, сінеюць яркія надпісы на нямецкай, англійскай, французскай, польскай мовах. Яны тлумачаць, каму належаць машыны, рэкламуюць свае краіны. Сярод іх няма толькі машын з надпісамі на беларускай мове. Падарожнікі заўважаюць гэта і па-свойму тлумачаць.

Побач са мной на прыпынку стаіць пажылы мужчына і даказвае кабеце:

— Бачыш? Раней вывелі з ужытку беларускую мову, а цяпер узяліся і за рускую. Прыкончаць...

— Перабольшваеш, — пярэчыць жанчына і заўважае, — жывём у сярэдзіне Еўропы, і цяпер жа ў нас двухмоўе...

— Якое там двухмоўе... — Мужчына махнуў рукой і пайшоў на другі бок праспекта.

Праз Беларусь сапраўды праходзіць геаграфічная лінія, якая паказвае сярэдзіну Еўропы. По нашых прасторах ляцяць, едуць, ідуць сотні тысяч разнамоўных людзей. Іх даводзіцца абслугоўваць: карміць, паіць і дапамагаць шмат у чым іншым. Зразумела, што ў беларусаў узнікла пільная патрэба ведаць іншыя мовы.

Пасля рэферэндуму ў Беларусі рэзка змяніліся адносіны да беларускай мовы. Практычна ўсе ва ўрадзе і Вярхоўным Савеце перайшлі на рускую мову. А як жа тады дэклараваная роўнасць дзвюх моў?

У савецкія часы, як вядома, сітуацыя з мовай была досыць супярэчлівая: з аднаго боку, у рэспубліцы падтрымлівалі выданне беларускіх газет і часопісаў, мастацкіх твораў, спрыялі развіццю нацыянальнага тэатра і кіно. З другога — беларуская мова не набывала шырокага распаўсюджвання. Дзяржаўныя органы, пачынаючы з Вярхоўнага Савета рэспублікі, працавалі на рускай мове. Справа даходзіла часам да страшэннай непісьменнасці. У адным з указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета прапаноўвалася дапоўніць спіс раздзелаў ганаровых званняў літарай «щ», хоць яе няма ў беларускай мове. І зусім ужо не ведалі, як ацэньваць тое, што за выдатныя заслугі выдавалася «пачотная грамата» Вярхоўнага Савета — не «почетная», не «ганаровая», а на невядома якой мове — «пачотная». Паступова знікалі беларускамоўныя школы ў сталіцы, а затым і ў іншых раёнах рэспублікі.

Са школьнікаў, якія палюбілі матчыну мову, часам нават пасміхаліся і здзекаваліся. Памятаю, неяк мы гаварылі з кандыдатам філасофскіх навук у яго на кватэры. Зайшоў суседскі першакласнік Ільюша і загаварыў па-беларуску. Кандыдат навук знарок вырашыў пасмяяцца з яго: «На каком языке ты говоришь? Что за язык? Ну, скажем, «трапка»... Хлопчык недаверліва паглядзеў на вучонага: «Не я, дзядзечка, а вы гаворыце «трапка», а я кажу «анучка». Што, непрыгожа?» Вучонаму стала не да смеху, а мне падумалася, што калі б кожны з нас, як школьнік, так разумеў сваю нацыянальную годнасць...

Яшчэ не ўсім нам зразумела, што разам з мовай знікае і павага да родных мясцін. Хто не шануе матчыну мову, той не любіць і яе песні, казкі, тыя дрэўцы, якія яна з любасцю пасадзіла ля хаты, без жалю забруджвае рэчку, у якой некалі сам купаўся і лавіў рыбу.

Няма моўных нарматываў, і кожны дзейнічае як каму ўздумаецца, і пры гэтым узгадвае рэферэндум. Узгадаем і мы. Рускай мове нададзены статус беларускай дзяржаўнай. Значыць, кіруемся тым правілам, што ў нас дзве дзяржаўныя мовы — беларуская і руская. Што ж, роўнасць дык роўнасць! Чаму ж тады ў ашчадным банку не прымаюць дакументы на дзяржаўнай беларускай мове? Чаму ў выканкомах Саветаў не хочуць выдаваць даведкі на дзяржаўнай беларускай мове? Чаму на сесіі Вярхоўнага Савет вядуцца спрэчкі, прымаюцца дакументы практычна на аднай рускай мове?

Глядзіш Беларускае тэлебачанне, слухаеш Беларускае радыё і здзіўляешся. Спрабуеш сабе ўявіць неверагоднае. У Смаленску ці ў Мурманску жыве малады чалавек, які валодае ўсімі мовамі народаў СНД. Больш за дзесяць моў ведае добра, а адну, рускую, на вялікі жаль, амаль не ведае — гаворыць трохі, а пісаць зусім не можа. Ці прызначаць яго ўлады кіраўніком райвыканкома альбо нават брыгадзірам на прадпрыемстве ці ў калгасе? І смешна стала — вядома, не прызначаць. Мову народа трэба ведаць — правіла для ўсіх!

Чаму ж тады ў нас нават на самыя высокія пасады прызначаюцца якраз тыя, хто не можа і трох слоў сказаць па-беларуску? Якая ж тады роўнасць? Дзіўна слухаць, калі журналіст па-беларуску пытае міністра, а той адказвае два словы па-беларуску і сто — па-руску. Мешаніна атрымліваецца ды дзівосныя словы з'яўляюцца: «жанщына», «рабёнак», «трапка», «пачот». Трэба, відаць, гаварыць ці па-руску, ці па-беларуску!

Дзве дзяржаўныя мовы — значыць трэба ведаць іх кожнаму чыноўніку. Хочаш займаць адказную пасаду ў Беларускай дзяржаве — мусіш ведаць і беларускую мову. Калі не вывучыў раней, вучы цяпер! Прыклад ёсць — беларускую мову вучаць дэпутаты Вярхоўнага Савета. Ды, па праўдзе кажучы, не такая ўжо гэта складаная справа. Трэба толькі захацець, узяць прыклад з разважлівых і таленавітых рускіх людзей, якія раней прыехалі працаваць у рэспубліку. Кампазітар Яўген Цікоцкі нарадзіўся ў Пецярбургу і жыў там. Калі пераехаў да нас, авалодаў нашай мовай і напісаў беларускія оперы «Міхась Падгорны» і «Алеся». Яго сын Міхаіл Цікоцкі, прафесар БДУ, напісаў падручнік па стылістыцы беларускай мовы. Гэта сапраўдная павага да народа, прымета іх высокай культуры.

Чаму б нам усім, нарэшце, не задумацца над зусім простым пытаннем — хто духоўна больш багаты: той, хто валодае адной мовай, або той, хто дзвюма ці трыма? Калі чалавек падумае над гэтым і разважыць, то ён ніколі не будзе пратэставаць супраць таго, каб яго дзіця авалодвала беларускай мовай.

Паважаць беларускую мову — значыць з пашанай ставіцца і да рускай. На адным маскоўскім семінары вядомаму рускаму пісьменніку Канстанціну Сіманаву задалі пытанне: «Ці не час ужо беларусам і ўкраінцам «закрыць» сваю мову і перайсці на рускую?» Сіманаў зачытаў пытанне і пракаменціраваў яго: «Мне, рускаму пісьменніку, беларуская і ўкраінская мовы не перашкаджаюць працаваць. Яны ўзбагачаюць мяне. Я радуюся, што яны развіваюцца. Калі ж ацэньваць мовы колькасна, то давайце скасуем і рускую. На рускай мове ў свеце размаўляе паўмільярда чалавек, а на англійскай — каля двух мільярдаў. Дык чаго ж спыняцца на паўдарозе?»

Зала адказала смехам. Шкада толькі, што і цяпер хто-ніхто мудруе над гэтым пытаннем.

Не ўсе беларусы, на жаль, разумеюць, што без мовы няма народа.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі, выступаючы нядаўна ў парламенце Расіі, нагадаў словы вялікага рускага пісьменніка Фёдара Дастаеўскага, род якога мае беларускія карані: «Чым больш мы будзем нацыянальныя, тым больш мы будзем еўрапейцамі»... Варта прыслухацца да нашага вялікага земляка.

**Валерый САРОКА,**

**Старшыня партыі Хрысціянска-дэмакратычны выбар, пісьменнік.**

